ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 87(5269)
Субота,
4 жніўня
2001 года

Выходзіць
з 20 снежня
1945 года

Кошт
у розніцу —
80 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Ці патрэбна дыягностыка душы?

***Імклівае распаўсюджанне займела ў апошнія гады прафесія "Практычны псіхолаг у адукацыі". Арганізацыя і станаўленне псіхалагічнай службы ПТНУ і ССНУ з'яўляецца ў наш час усвядомленай неабходнасцю. Таму яна паступова ўваходзіць у структуру вучэбна-выхаваўчага працэсу прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў Беларусі.***

У другой палове 90-х гадоў у Рэспубліцы Беларусь павялічылася колькасць вышэйшых навучальных устаноў па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы практычных псіхолагаў. Аднак, заўважу, нягледзячы на шырокую сетку ВНУ па навучанні псіхалагічных кадраў, на якое трацяцца вялізныя дзяржаўныя сродкі, установы адукацыі ўсё яшчэ не ўкамплектаваны псіхолагамі ў поўнай меры. Так, у Гомельскай вобласці на 39 прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў прыходзіцца толькі 12 педагогаў-псіхолагаў. Такім чынам, узнікае шэраг пытанняў: куды "знікаюць" кадры пасля атрымання дыплома аб псіхалагічнай адукацыі; чаму, уладкаваўшыся на працу практычным псіхолагам, некаторыя работнікі доўга не затрымліваюцца на гэтай пасадзе; чаму псіхолагі не ідуць працаваць у сферу прафесійна-тэхнічнай адукацыі?

Паспрабую прапанаваць адказы на асобныя з пытанняў. Па-першае, заработная плата педагога-псіхолага — вельмі нізкая. Па-другое, узнікаюць складанасці па абсталяванні рабочага месца ў адпаведнасці з загадам № 496 ад 13.02.1998 г. "Аб зацвярджэнні Палажэння аб кабінеце псіхалагічнай службы ўстаноў адукацыі". Не заўсёды кіраўнікі ўстаноў адукацыі могуць знайсці сродкі для матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння падобнага кабінета, набыцця спецыяльнай літаратуры. У шэрагу навучальных устаноў педагогі-псіхолагі вымушаны набываць за свае грошы і дарагую літаратуру, і неабходныя сродкі для эфектыўнай арганізацыі сваёй дзейнасці. Па-трэцяе, рызыкну сцвярджаць, што выпускнікі-псіхолагі ВНУ, ведаючы сістэму ПТА толькі па чутках, апасаюцца кантынгенту "пэтэвэшнікаў", сензітыўнага падлеткавага ўзросту з яго дэвіяцыямі і асацыяльнымі паводзінамі, падлеткаў групы рызыкі.

Гэтую праблему, відавочна, можна вырашыць шляхам увядзення ў тэматычнае планаванне гадзін па спецыфіцы арганізацыі псіхалагічнай службы ў розных тыпах адукацыйных устаноў і іх асноўнай дзейнасці, а таксама правядзеннем дыферэнцыяванай псіхалагічнай практыкі з абавязковым яе праходжаннем у дзіцячым садзе, агульнаадукацыйнай школе, прафесійна-тэхнічнай навучальнай установе.

Магчыма, мае сэнс стварыць базу даных па працаўладкаванні выпускнікоў-псіхолагаў для таго, каб можна было прасачыць іх далейшы шлях: працаўладкаванне, адпаведнасць працоўнага месца псіхолага нарматыўным дакументам, аналіз дзейнасці псіхалагічнай службы кожнай канкрэтнай навучальнай установы.

Дзейнасць педагога-псіхолага ў прафесійнай навучальнай установе — шматгранная. Яна звязана з вызначэннем мэт адзінага педагагічнага працэсу, прынцыпаў яго праектавання, рэалізацыяй зместу, аптымальнасцю выбару метадаў, сродкаў і арганізацыйных форм навучання і выхавання. Асноўная ўвага пры гэтым павінна быць накіравана на стварэнне неабходных умоў для псіхафізіялагічнага і сацыяльна-псіхалагічнага развіцця асобы ў шчыльнай узаемасувязі з прафесійным станаўленнем навучэнца.

Асноўная мэта псіхалагічнай службы ў прафесійнай школе — псіхолага-педагагічнае суправаджэнне асобы навучэнца ў працэсе прафесійнай адукацыі, псіхалагічнае забеспячэнне педагагічнага працэсу, фарміраванне псіхалагічнай гатоўнасці да асобаснага самавызначэння, якое, да таго ж, уключае і сацыяльнае, і прафесійнае вырашэнне.

Многія кіраўнікі лічаць, што псіхолаг можа ім дапамагчы ў выяўленні прычын непаспяховасці і недысцыплінаванасці асобных навучэнцаў, у складанні праграмы работы з цяжкімі падлеткамі, у вызначэнні ўзроўню падрыхтаванасці да вучобы. Яны хацелі б атрымаць дапамогу ў выбары сродкаў і метадаў работы з дзецьмі з праблемных сем'яў, у пераадоленні канфліктных сітуацый, у наладжванні ўзаемадзеяння паміж вучылішчам і сям'ёй.

Бацькоў часта непакоіць несфарміраваная матывацыя навучання, дэфармацыя матывацыйна-патрэбнаснай сферы, фарміраванне негатыўных асобасных асаблівасцей, яны чакаюць дапамогі ад псіхолага ў наладжванні ўзаемаразумення паміж падлеткам і членамі сям'і.

Выхаванцы чакаюць ад псіхолага адказаў на пытанне пра тое, як авалодаць пэўнымі вучэбнымі навыкамі, як пераадолець складанасці ва ўзаемінах з аднагодкамі, ва ўзаемаадносінах з педагогамі і бацькамі, як развіваць тыя або іншыя якасці.

У сістэме адукацыі ў цэлым склалася разуменне дзейнасці педагога-псіхолага, прыкладаюцца намаганні па ўдасканаленні навукова-метадычнага, тэхнічнага і арганізацыйнага забеспячэння яго працы. Аднак у працэсе работы ўзнікае шэраг цяжкасцей. Так, напрыклад, многіх педагогаў-псіхолагаў хвалюе пытанне: як праводзіць трэнінгі, калі з 8.00 і да 16.00 дзеці вучацца, пасля чаго ў іх усіх — пазаўрочная занятасць? З адаптацыйным перыядам падлеткаў таксама ёсць праблемы, таму што не ўсе вучні камунікабельныя, не ўсе лёгка ўжываюцца ў новы калектыў аднагодкаў. Лічу цалкам дапушчальным і магчымым у першыя тыдні навучання праводзіць адаптацыйныя трэнінгі, што дазволіць дзецям больш хутка наладзіць міжасобасныя адносіны.

Назіранні паказваюць, што ў дзейнасці педагогаў-псіхолагаў пераважаюць псіхадыягнастычны кірунак, індывідуальныя гутаркі і псіхалагічныя гульні. Не ў дастатковай меры нашы спецыялісты валодаюць методыкай псіхалагічнай асветы навучэнцаў, педагогаў, бацькоў. Рэдкія іх выступленні на радыё і ў друку. Мала ўвагі ўдзяляецца выкарыстанню ў сваёй працы прафесіяграм, кваліфікацыйных характарыстык, адсутнічае прагназаванне вынікаў арганізацыйна-педагагічных рашэнняў. Слаба праводзіцца ў вучылішчах і эксперыментальная работа па псіхалагічных даследаваннях.

Даволі складана ўявіць сабе, што вырашыць задачы, якія стаяць перад псіхалагічнай службай навучальнай установы, — пад сілу аднаму, нават самаму кампетэнтнаму, спецыялісту. Таму актыўнымі ўдзельнікамі працэсу псіхалагічнага суправаджэння павінны стаць інжынерна-педагагічныя работнікі, кіраўнікі навучальнай установы і іншыя суб'екты педагагічнага працэсу. Эфектыўнасць іх узаемадзеяння будзе залежаць ад таго, наколькі дакладна сфармуляваны іх задачы ў рэчышчы агульнай мэты, абавязку і права ў адносінах да навучэнцаў, вызначаны прынцыпы ўзаемадзеяння. Кожны з суб'ектаў павінен выразна ўяўляць сферу сваёй дзейнасці, і адносіны паміж імі павінны ладзіцца не на ўзаемаперасячэнні, а на ўзаемадапаўняльнасці пазіцый і супрацоўніцтве.

На жаль, яшчэ не ўсе інжынерна-педагагічныя работнікі выказваюць імкненне супрацоўнічаць з псіхалагічнай службай, і педагогам-псіхолагам бывае вельмі цяжка пераадолець неразуменне з іх боку. Таму адным са шляхоў вырашэння гэтай праблемы служыць стварэнне паэтапнай праграмы для псіхолагаў-пачаткоўцаў з мэтай арганізацыі супрацоўніцтва з інжынерна-педагагічнымі работнікамі, якая, напрыклад, у нашай вобласці знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі. Такая праграма дасць магчымасць праявіць асобасныя якасці педагога-псіхолага, укараніць веды псіхолага-педагагічнай навукі ў практыку работы, наладзіць узаемадзеянне з педкалектывам, азнаёміць калег з метадамі і прыёмамі самарэалізацыі, выхаду з крызісных сітуацый і інш.

З мэтай удасканалення вучэбна-выхаваўчага працэсу лічу неабходным, каб педагогі-псіхолагі займаліся выкладчыцкай дзейнасцю па прадметах псіхалагічнай накіраванасці ("Асновы псіхалогіі", "Сацыяльная псіхалогія", "Этыка і псіхалогія дзелавых стасункаў" і інш.), што, у сваю чаргу, дазволіць псіхолагу выявіць шэраг індывідуальных рыс у падлеткаў, своечасова дапамагчы і падтрымаць, а навучэнцам — азнаёміцца з асновамі псіхалагічных навук, убачыць рэзервы ўласнай асобы.

Выказваю спадзяванне, што псіхалагічныя навацыі ў навучальных установах нашай краіны, у тым ліку і Гомельскай вобласці, будуць развівацца, падтрымлівацца адпаведнымі органамі кіравання, таму што навучанне і выхаванне — немагчымыя без псіхалагічных ведаў.

**Маргарыта ДРАГУНОВА,**
**метадыст Гомельскага абласнога вучэбна-метадычнага цэнтра прафесійнай адукацыі.**



Летні расклад

## "Атлант" збірае сяброў

***Сёлета на Капыльшчыне ў летніках з кругласутачным і дзённым знаходжаннем пройдуць аздараўленне каля дзвюх тысяч дзяцей (трэцяя частка школьнікаў раёна).***

Акрамя таго, дзесяць беларускіх хлопчыкаў і дзяўчынак разам са сваімі равеснікамі з г.Чэхава Маскоўскай вобласці (Капыль звязваюць з гэтым горадам цесныя братэрскія сувязі) адпачылі ў г.Сочы. 27 чалавек нядаўна вярнуліся з чэхаўскага летніка "Казка". Столькі ж дзяцей з суседняй краіны вось ужо трэці год запар падмацоўвалі здароўе ў нашым летніку "Лясная казка", што традыцыйна размяшчаецца на базе Ляснoўскай сярэдняй школы.

80 чалавек, сярод якіх дзеці-інваліды і дзеці з хранічнымі захворваннямі (некаторыя нават са сваімі матулямі), - набіраліся моцы ў летніку пры Бабаўнянскай участковай бальніцы.

Пры школах дзейнічалі шэсць летнікаў працы і адпачынку, працягваюць шчыраваць школьныя лясніцтвы, вытворчыя брыгады і звенні, экалагічныя атрады.

У месцы, дзе зліваюцца дзве ракі — Морач і Мажа, раскінулася вёска Семежава. У будынку былой школы гэтага буйнога паселішча ўжо больш за дзесяць гадоў працуе летнік "Атлант". У маі гэтага года ён перададзены на баланс раённага аддзела адукацыі. Пяць мільёнаў рублёў затрачана было сёлета, каб паднавіць у будынку дах, зрабіць касметычны рамонт, набыць неабходныя рэчы і інш.

І вось днямі ў "Атланце" закончылася чарговая летнікавая змена. На працягу трох тыдняў тут адпачылі 90 дзяцей. Трэць з іх прыязджаюць сюды не першы раз. Не былі яны расчараваным і сёлета. Хлопчыкі і дзяўчынкі бралі ўдзел у разнастайных мерапрыемствах, сярод якіх — "Міс "Атлант", "Дзень Нептуна", "Добры маладзец", ушанаванне імяніннікаў. А яшчэ яны шмат купаліся, праводзілі конкурсы на лепшы малюнак пра лета, лепшы букет, удзельнічалі ў гульнях, дыскатэках, таварыскіх сустрэчах па футболе з капыльскім летнікам "Алімпіец", займаліся іншымі цікавымі справамі. Надоўга запомніцца дзецям і аўтобусная экскурсійная паездка па маршруце "Навагрудак — возера Свіцязь — Мірскі замак — Нясвіж".

З трэцяга жніўня "Атлант" прымае чарговую змену. Сюды прыедуць больш за 80 дзяцей-сірот з Грозаўскай школы-інтэрната.

**Мікалай ЛОСІК,**
**начальнік аздараўленчага летніка "Атлант".**

НА ЗДЫМКУ: "Мы з "Атланта""!

**Фота Івана ІГНАТЧЫКА.**

Уступныя экзамены

## Парушэнняў не выяўлена

***У ходзе ажыццяўлення кантролю за работай прыёмнай камісіі і правядзеннем уступных экзаменаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце парушэнняў нарматыўна-прававых актаў, якія вызначаюць правілы і парадак прыёму ў гэтую навучальную ўстанову, выяўлена не было.***

Такая высновa вынікае са справаздачы дзяржаўнай камісіі па кантролі за ўступнымі экзаменамі ў БДУ.

У 2001 годзе прыём у Белдзяржуніверсітэт праводзіўся на 17 факультэтаў і ў Міжнародны гуманітарны інстытут па 49 спецыяльнасцях. Упершыню ўведзены спецыяльнасці: "Лячэбна-прафілактычная справа", "Лінгвакраіназнаўства", "Дакументавядзенне і дакументацыйнае забеспячэнне кіравання", "Кітайская мова і літаратура".

Пры плане прыёму ў 1850 чалавек было пададзена 6387 заяў. Найбольшы конкурс склаўся на спецыяльнасці "Сучасная англійская мова і літаратура" — больш як 10 чалавек на месца; тых, хто пажадаў вывучаць кітайскую мову і літаратуру, было каля 6,5 на месца. Трэба адзначыць высокі конкурс на ўсе спецыяльнасці, звязаныя з вывучэннем замежных моў і літаратуры (практычна ўсюды — больш як 5 чалавек на месца).

Устойлівай папулярнасцю ў абітурыентаў карыстаецца эканамічная тэорыя — амаль шэсць з паловай чалавека на адну вакансію; эканоміка — 5,41; сусветная эканоміка і міжнародныя эканамічныя адносіны — 5,11 прэтэндэнта на адно месца.

Цікава, што конкурс на спецыяльнасці "Беларуская мова і літаратура" склаў 3,39 чалавека на месца, а на спецыяльнасць "Руская мова і літаратура" — 2,7 чалавека на месца.

Перспектыўная спецыяльнасць "Інфармацыя і камунікацыі" выклікала цікавасць у шэсць разоў большую, чым запланаваная колькасць абітурыентаў. А прахадны бал сярод гарадскіх выпускнікоў школ тут склаў 26 з 30 магчымых, сярод сельскіх — адпаведна 23 з 30.

Сярэдні бал атэстата залічаных на першы курс студэнтаў склаў 4,77. На некаторых спецыяльнасцях — "Хімічная экалогія", "Лячэбна-прафілактычная справа", "Фармацыя", "Хімія лекавых злучэнняў" — больш як 4,9.

Трэба адзначыць, што сёлета ўпершыню веды абітурыентаў ацэньваліся па дзесяцібальнай шкале. Наколькі эксперымент удаўся, пакажа час. Але дзяржаўная камісія, якая назірала за ходам уступных экзаменаў, адзначыла, што падобнае наваўвядзенне "дазволіла больш аб'ектыўна ацаніць веды абітурыентаў і ў пэўнай ступені знізіць эмацыянальна-псіхалагічную нагрузку пасля выстаўлення адзнакі".

У ходзе прыёмных экзаменаў высветлілася, што многія абітурыенты маюць дастаткова слабыя веды па геаграфіі. Аналіз тэставых заданняў па рускай і беларускай мовах сведчыць пра тое, што ў цэлым узровень лінгвістычнай і маўленчай кампетэнцыі выпускнікоў школ з'яўляецца добрым.

Дзяржаўная камісія адзначае добрую падрыхтоўку па хіміі не толькі выпускнікоў ліцэя БДУ, спецыялізаваных школ і гімназій, але і вучняў сельскіх школ. Але ў той жа час прапануе пашырыць практыку прадастаўлення трох дадатковых балаў сельскім выпускнікам не толькі бягучага, але і папярэдніх гадоў, калі яны пражываюць у родных мясцінах. Гэта звязана з тым, што працягвае назірацца тэндэнцыя да павелічэння разрыву ва ўзроўні ведаў паміж гарадскімі і сельскімі выпускнікамі. Асабліва гэта прыкметна на прыкладзе экзаменаў па матэматыцы.

Нягледзячы на льготы сяльчанам назіраецца таксама тэндэнцыя да змяншэння працэнта сярод абітурыентаў БДУ сельскіх выпускнікоў і да павелічэння гарадскіх.

За час правядзення ўступных экзаменаў у БДУ ў прыёмную камісію было пададзена 47 апеляцый. У 13 выпадках рашэннем апеляцыйнай камісіі экзаменацыйныя адзнакі абітурыентаў былі зменены ў бок іх павелічэння. Больш за ўсё такіх выпадкаў аказалася пасля пісьмовага экзамену па матэматыцы — 7.

Весткі з Брэста

## Каралева шахмат

Святлане Грэчка з Брэста споўнілася толькі 14 гадоў. А яна ўжо добра вядомая ў шахматным свеце. Нядаўна вучаніца з Брэста была запрошана на 50-гадовы юбілей экс-чэмпіёна свету Анатоля Карпава. Тут, у Маскве, яна з радасцю даведалася пра тое, што будзе атрымліваць спецыяльную стыпендыю, якую заснаваў славуты гросмайстар для адораных юных шахматыстаў.

Удачы і поспехаў табе, юная брэстчанка, на шахматным алімпе!

## Карону атрымала "Непаседа"

Нядаўна ўзорны дзіцячы танцавальны калектыў "Непаседа" з вёскі Расна Камянецкага раёна пабываў у Латвіі. Кіруе калектывам выключны знаўца харэаграфічнай справы Ларыса Нічыпарук. У міжнародным фестывалі-конкурсе "Міні-міс Латвіі" калектыў "Непаседа" заваяваў пераходную карону коштам у 2,5 тысячы долараў. Цёпла сустрэлі калектыў і ў Юрмале, дзе танцоры выступілі з канцэртам перад дзецьмі-чарнобыльцамі, якія адпачываюць у санаторыі "Беларусь".

Ажыццявіць гэтую паездку дапамаглі бацькі юных артыстаў і калгас "Савецкая Беларусь", (дырэктар Уладзімір Бядуля), які выдзеліў 1000 долараў.

Яшчэ доўга будуць успамінаць дзяўчынкі і хлопчыкі з Камянеччыны цёплыя сустрэчы і ласкавае Балтыйскае мора.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ.**

Ёсць такая ўстанова

## Калодзежская акадэмія

***Калодзежская базавая школа — адна з найбольш вядомых навучальных устаноў на Чэрвеньшчыне. Яе дырэктар Віктар Кузьмін заявіў пра сабе і як таленавіты педагог, і як добры адміністратар-гаспадарнік.***

У тым, што Віктар Сямёнавіч мае менеджэрскую струнку, мяне пераканаў намеснік загадчыка аддзела адукацыі Чэрвеньскага райвыканкама Анатоль Манжынскі.

Ён звярнуў маю ўвагу на тое, што школа мае поўны набор неабходных гаспадарчых пабудоў — капітальныя сховішчы для паліва, агароднiны, павець для металалому, нават невялічкую канюшню, узведзеную па праекце гаспадарлівага дырэктара.

А які тут зямельны ўчастак! З яго школьная сталоўка поўнасцю забяспечваецца садавінай, агародніной, бульбай. Удосталь дароў з агарода, каб нарыхтаваць варэнне, розныя марынады ды засолкі, а з лекавых траў насушыць духмянага чаю. І гэта ўсё — справа рук вучняў, іх бацькоў, настаўнікаў ды нешматлікага тэхперсаналу. У арганізацыі школьнага харчавання неацэнную дапамогу аказвае таксама эксперыментальная база "Натальеўск".

У аддзеле адукацыі Чэрвеньскага райвыканкама іншы раз гэтую школу называюць "Калодзежскай акадэміяй". Гучна? А чаму б і не? Справа ў тым, што тут не знойдзеш нават невялічкага кавалка зямлі, каб ён не быў задзейнічаны пад дослед. Гэта Смілавіцкі сельгастэхнікум "прыклаў руку", прыцягнуўшы да эксперыменту і школьнікаў.

Ці не паказальнае такое супрацоўніцтва?

Зразумела, што ў такой навучальнай установе павінна быць і належная вучэбная матэрыяльна-тэхнічная база. Так і аказалася: камп'ютэрны клас, відэасалон, музычна-забаўляльны цэнтр. У распараджэнні маладых педагогаў — інтэрнат.

Калодзежскую базавую школу называюць і мясцовым адукацыйным гарадком — яна вядомая і сваім навучальна-выхаваўчым працэсам таксама. Настаўнікі плённа працуюць над праблемай асобасна арыентаванага падыходу да навучання і выхавання падлеткаў. Адсюль — ухіл на дыферэнцыявана-індывідуальны змест і формы навучання. За кошт школьнага кампанента праводзяцца заняткі па інтарэсах, факультатывы, працуюць курсы па выбары, гурткі. З новага навучальнага года матэматыка ў 8-м класе будзе вывучацца на павышаным узроўні, а ў 5-х класах пачнуць выкарыстоўвацца новыя педагагічныя тэхналогіі.

У Калодзежскай базавай школе займаюцца 16 вучняў-перасяленцаў. Тут створаны спрыяльныя ўмовы для іх адаптацыі і паўнацэннага развіцця, а ў канікулярны час дзеці адпачываюць і аздараўляюцца ў лепшых санаторыях і летніках як у Беларусі, так і за яе межамі.

Па слядах бацькі, дырэктара Калодзежскай школы Віктара Сямёнавіча Кузьміна, пайшла і яго дачка — Русдана. Маладая настаўніца выкладае ў пачатковых класах школы, завочна займаецца ў БДПУ імя М.Танка. А значыць, прафесійная дарога Віктара Сямёнавіча, педагога, таленавітага кіраўніка і адміністратара, працягваецца належным чынам.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**метадыст Мінскага абласнога ІПК.**

Абітурыент–2001

## Экзамен на канкурэнтаздольнасць

***Яшчэ пануе густая цеплыня, але ж лёгкі павеў верасня — ужо адчувальны. Ён пакуль пяшчотна кранае паветра, нібы прыберагае свае сілы на восень. Млявы ад сонечнай шчодрасці жнівень усё ж пачынае ладзіць масток у новую пару года. А яшчэ — у новае самастойнае жыццё, якое абрала сёлета наша моладзь.***

З першымі жнівеньскімі днямі пачаліся ўступныя іспыты ва ўстановах прафтэхадукацыі. У новым статусе сустракае сваіх абітурыентаў Мінскі прафесійна-тэхнічны каледж паліграфіі. Адзіная ў рэспубліцы па сваёй галіне ўстанова — адметная сваім высокім конкурсам абітурыентаў. На такія прафесіі, як друкар, пераплётчык, прадавец, заяў паступае ў два разы болей, чым патрабуецца.

— Падобная сітуацыя складваецца і ў гэтым жніўні, — расказвае намеснік дырэктара каледжа Ганна Верацiла. — Але набор, на жаль, мае свае межы. Збіраемся камплектаваць з першакурснікаў шэсць груп па 30 чалавек. Гэта азначае, што па кожнай з трох прафесій будуць набірацца дзве групы.

— Вельмі прыемна, — дадае Ганна Уладзіміраўна, — што ўзровень базавых ведаў абітурыентаў даволі высокі. Думаецца, шмат хто пераадолее экзаменацыйны бар'ер з поспехам.

Адметна, што на працягу мінулага навучальнага года ва ўстанове праводзілася планамерная прафарыентацыйная работа. Ужо з кастрычніка школы горада наведвалі майстры вытворчага навучання, выкладчыкі, якія сустракаліся з вучнямі, настаўнікамі, бацькамі і знаёмілі іх з паліграфічнай справай. А кожны тыдзень на працягу вясновых месяцаў вучылішча прымала гасцей са школ і НВК на Дні адкрытых дзвярэй. З гэтай нагоды навучэнцамі ВПВ былі надрукаваны візітоўкі, буклеты і іншая наглядная інфармацыя. Наведвальнікі азнаёміліся з навучальна-вытворчай базай, якая складаецца з добра абсталяваных майстэрняў, сучасных кабінетаў. У каледжы працуе цэлы комплекс разнастайных гурткоў, секцый і аб'яднанняў. Кожны падлетак можа праявіць свае здольнасці ў тэхнічнай творчасці, у мастацкай самадзейнасці альбо на спартыўнай арэне.

Установа неаднаразова выходзіла пераможцай у шматлікіх спартыўных спаборніцтвах і прафесійных конкурсах. Яна з'яўляецца лаўрэатам фестываляў мастацкай самадзейнасці. Набірае тэмп у сваім развіцці праграма "Адораная асоба". У адпаведнасці з ёю была шырока прадстаўлена работа прадметных гурткоў і факультатываў. Праводзіліся вучылішчная алімпіяда па агульнаадукацыйных прадметах і конкурс эрудытаў. Пераможцы сталі ўдзельнікамі гарадскіх алімпіяд па фізіцы і матэматыцы.

Шырокую папулярнасць набыла кансультацыйная служба даверу, у склад якой уваходзяць псіхолаг, сацыяльны педагог, іншыя спецыялісты. Знайшлі падтрымку сярод навучэнцаў і педагогаў выхаваўчыя праграмы "Сыны Айчыны", "Сям'я".

Паліграфічная тэхніка набываецца ў асноўным ва ўстанове за кошт пазабюджэтных сродкаў, атрыманых ад продажу друкаванай прадукцыі. Асобнае абсталяванне прадастаўляюць прадпрыемствы паліграфіі, якія шчыльна супрацоўнічаюць з каледжам у пытаннях вытворчай практыкі і працаўладкавання.

Укараненне ў навучальна-выхаваўчы працэс новых адукацыйных і галіновых тэхналогій, аператыўнае рэагаванне на патрэбы работадаўцаў, пастаяннае вывучэнне сусветных накірункаў паліграфіі дазваляе дасягнуць пэўных вынікаў у якаснай падрыхтоўцы рабочых кадраў.

Дарэчы, не першы год рыхтуе ўстанова спецыялістаў сярэдняга звяна: тэхнікаў-тэхнолагаў, арганізатараў паліграфічнай вытворчасці. Працэс двухступеньчатага навучання суправаджаецца тут вырашэннем апорнай праблемы па праектаванні і адаптацыі адукацыйных стандартаў і камплектаў вучэбна-праграмнай дакументацыі новага пакалення. Асноўнае ў ёй — змяненне структуры прафесійнай падрыхтоўкі, якое скіравана на развіццё асобасна-прафесійнага патэнцыялу спецыялістаў.

Гэтая праблема паспяхова вырашаецца дзякуючы згуртаванаму, творчаму калектыву педагогаў пад кіраўніцтвам дырэктара каледжа Раісы Дробыш. Здольны арганізатар, ініцыятыўны работнік, Раіса Іванаўна вядзе настойлівы пошук шляхоў і форм павышэння прафесійнага майстэрства выкладчыкаў і майстроў вытворчага навучання. У каледжы праводзіцца навукова-даследчая работа, стварающца творчыя лабараторыі з мэтай вывучэння, адбору навуковых дасягненняў, перадавога вопыту і выкарыстання іх у практычнай дзейнасці. Таксама арганізаваны псіхолага-педагагічныя курсы, стажыроўка майстроў і выкладчыкаў па прафесіях. Увогуле, намаганні ўсяго калектыву скіраваны на стварэнне ўмоў для гарманічнага развіцця асобы і рэалізацыі яе творчага патэнцыялу, што паспрыяе ў далейшым павышэнню канкурэнтаздольнасці рабочых і спецыялістаў паліграфічнай вытворчасці на рынку працы.

А пакуль у каледжы сваю канкурэнтаздольнасць на рынку ведаў правяраюць абітурыенты. Для многіх гэтае першае выпрабаванне ўжо ацэнена выдатнай адзнакай.

**Ала КЛЮЙКО.**

Будні ПТА

# Калі імкненні апраўданы

***Развіццё прафесійнай школы на працягу апошніх гадоў, як і агульнаадукацыйнай, ажыццяўляецца праз асваенне новаўвядзенняў. Інавацыйны пошук быў выкліканы пэўнай неадпаведнасцю паміж патрэбнасцямі і каштоўнасцямі сучаснай сістэмы адукацыі, звязанай з ідэямі самавызначэння і самарэалізацыі асобы, і недастатковасцю ўмоў для іх рэалізацыі ў вучэбна-выхаваўчым працэсе. У варунках імклівага развіцця соцыуму чалавек павінен валодаць індывідуальным вопытам і "асобасным стрыжнем", усведамляючы сябе як свабодную асобу, якая мае магчымасць самаздзяйснення.***

Перапрафіліраванне, увядзенне новых прафесій і спецыяльнасцей, пераход на шматпрофільную і шматузроўневую падрыхтоўку спецыялістаў, актыўная прафарыентацыйная работа дазваляюць павысіць цікавасць да ўстаноў пачатковай прафесійнай адукацыі з боку моладзі з больш высокім узроўнем агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі і ўстойлівым інтарэсам да абранай сферы дзейнасці.

Натуральна, працэсы станаўлення і развіцця прафесійных адукацыйных устаноў праходзяць па-рознаму і з рознай ступенню выніковасці. Прыкметна павысіўся аўтарытэт прафесійных ліцэяў са шматузроўневай і шматпрофільнай арганізацыяй навучання. Хто-ніхто лічыць, што змяненне статуса ПТВ на ліцэй з'яўляецца толькі заменай шыльды для прыцягнення ўвагі абітурыентаў. Але гэта не так. Статус прафесійнага ліцэя сапраўды дапаможа зацікавіць больш падрыхтаваную моладзь, але самае галоўнае — прымусіць выкладчыкаў шмат у чым перагледзець свае задачы і суаднесці з імі педагагічную дзейнасць. Такім чынам, прафесійная адукацыя зрабіла дастаткова магутны рывок у сваім развіцці.

Аднак гэты рывок — толькі рэалізацыя аднаго з этапаў, які характарызуе ўвогуле структурныя змены агульнага зместу прафесійнай адукацыі. Этап — адчувальны і прыкметны, але поспехі яго могуць стаць кароткачасовымі, калі змяненне зместу і ўсяго адукацыйнага працэсу ўнутры навучальнай установы не накіраваць на дасягненне галоўнай мэты, адэкватнай патрабаванням часу.

У наш час грамадства развіваецца вельмі дынамічна: змяняюцца сацыяльна-эканамічныя адносіны, хуткімі тэмпамі ўводзяцца новыя тэхналогіі ва ўсіх сферах вытворчасці і чалавечай дзейнасці. Прафесійныя патрабаванні будуць змяняцца ў бок інтэлектуалізацыі працы, што запатрабуе ад будучага спецыяліста прыкладна аднолькавага ўзроўню і прафесійнай падрыхтоўкі, і адукаванасці, і агульнай культуры. Дадзеныя міжнароднага цэнтра сістэм навучання сведчаць, што да канца 2001 года каля 80 працэнтаў "старых" прафесій фактычна зменяць свой змест, а некаторыя — знікнуць увогуле.

Працэсы пераўтварэння прафесійнай адукацыі, якія адбываюцца цяпер, тармозяцца шэрагам праблем. Самыя значныя з іх — гэта матэрыяльнае забеспячэнне і слабая агульнаадукацыйная падрыхтоўка абітурыентаў, недахоп вучэбна-метадычнай літаратуры.

Савет Міністраў зацвердзіў Канцэпцыю і Праграму развіцця ПТА ў Рэспубліцы Беларусь, і сёння кожная ўстанова павінна вызначыць сваю ролю ў рэалізацыі гэтых дакументаў. Гэта — стратэгія змен, якая прадугледжвае поўную рэканструкцыю навучальнай установы, закранае ўсе кампаненты дзейнасці, усе структуры, іх часткі. Такая стратэгія ажыццяўляецца, як правіла, пры змяненні ранейшага статусу навучальнай установы, што і прадугледжвае Канцэпцыя развіцця ПТА: рэалізацыя адукацыйных праграм і паслуг будзе весціся адначасова з пераўтварэннем прафесійна-тэхнічных і вышэйшых прафесійных вучылішчаў у прафесійныя ліцэі і прафесійна-тэхнічныя каледжы.

Першым крокам на гэтым шляху з'яўляецца адкрыццё ліцэйскіх груп. Праграмай развіцця Магілёўскага ПТВ-58 будаўнікоў на 2001-2005 гады прадугледжана пераўтварыць вучылішча ў прафесійны ліцэй у 2005 годзе, і ў ёй пазначаны ўсе задачы, якія мы будзем вырашаць на працягу пяці гадоў. Цяпер мы заклапочаны асноўным — адкрыць у 2001 годзе ліцэйскую групу політэхнічнага профілю, дзе профільнымі прадметамі будуць матэматыка, фізіка, астраномія, інфарматыка і чарчэнне.

Прааналізаваўшы вынікі паспяховасці і выпускных экзаменаў па агульнаадукацыйных прадметах за курс школы за апошнія тры гады, мы прыйшлі да высновы, што больш мэтазгодна адкрыць такую групу па спецыяльнасці "сталяр, станочнік дрэваапрацоўчых станкоў".

У гэтую групу прыходзяць больш падрыхтаваныя дзеці, і ёсць магчымасць адбору. А ў сувязі з тым, што створана вучэбнае аб'яднанне бесперапыннай адукацыі "Магілёўскае ПТВ-58 будаўнікоў — Магілёўскі будаўнічы каледж" і мы накіроўваем на вучобу ў каледж выпускнікоў, якія скончылі вучылішча на "4" і "5", без уступных экзаменаў, то недахопу ў абітурыентах на гэтую прафесію ў нас няма. Неабходна толькі правесці старанны адбор пры прыёме ў вучылішча, вырашыўшы, якой форме пры гэтым мы аддадзім перавагу — конкурсу атэстатаў або ўступнаму экзамену па адным з профільных прадметаў.

Ліцэйскія групы — новы кірунак у рабоце прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў. І, як у любой новай справе, ёсць свае праблемы, як, напрыклад, якасны набор навучэнцаў, арганізацыя прафарыентацыйнай работы ў школах. Добрых вучняў са школ адпускаюць з цяжкасцю. І толькі тады не будзе праблемы з наборам, калі разам з добрай агульнаадукацыйнай падрыхтоўкай навучэнцы будуць атрымліваць прафесію, якая карыстаецца попытам на рынку працы.

Распрацоўваючы праграмы правядзення прадметных тыдняў, выкладчыкі прадумваюць кожнае мерапрыемства, запрашаюць работнікаў праваахоўных органаў, пісьменнікаў і паэтаў Магілёўшчыны, ветэранаў вайны і працы, былых выпускнікоў вучылішча. Гэтыя сустрэчы выхоўваюць у падлеткаў павагу да старэйшых, гонар за свой край, пачуццё абавязку, адказнасці за даручаную справу і, безумоўна, дысцыплінуюць іх, выклікаюць жаданне лепш вучыцца і дасканала авалодаць сваёй прафесіяй. У праграме развіцця нашай установы адлюстраваны тыя праблемы, над якімі будуць працаваць інжынерна-педагагічныя работнікі. Выкладчык гісторыі Л.Панамарова засяродзіцца на апрабацыі і ўкараненні метадаў інтэрактыўнага навучання: гэта — праблемныя лекцыі, калектыўна-групавая работа, работа ў малых групах, метад кантрольных пытанняў. Над выкарыстаннем гульневых тэхналогій працягвае працаваць выкладчык хіміі Л.Кунцэвіч. Тэхналогіі паэтапнага фарміравання разумовых дзеянняў выпрацоўвае выкладчык матэматыкі А.Чумакова. Над тэхналогіяй прывіцця базісных ведаў без адстаючых працуе выкладчык беларускай мовы і літаратуры В.Барысюк.

Тыя задачы, якія стаяць перад нашым калектывам, мы ў стане вырашыць.

**В. АЎСІЕВІЧ,**
**намеснік дырэктара ПТВ № 58**
**Магілёва.**

На шляхах рэформы

# "Я мару пра сельскую гімназію..."

***Георгій Сцяпанавіч Раманюк — адзін з лепшых кіраўнікоў устаноў адукацыі са Слуцкага раёна. Інтэлектуал, аналітык, вопытны кіраўнік сельскай школы, Георгій Сцяпанавіч узначальвае раённую школу рэзерву кіруючых кадраў. "Наш маяк, вопытнейшы метадыст, абаяльны чалавек", — так характарызуе Раманюка Зінаіда Мікалаеўна Міроненка — намеснік загадчыка Слуцкага раённага аддзела адукацыі.***

***Сёння Г.С.Раманюк — госць "Настаўніцкай газеты".***

**— Георгій Сцяпанавіч, што для Вас школа?**

— Школа — гэта месца, дзе кожны вучань адчувае цеплыню і дабрыню, дзе яго ўспрымаюць як асобу з яе непаўторнымі інтарэсамі, магчымасцямі і запатрабаваннямі.

Што б ні адбывалася ў жыцці, школа застаецца асноўнай выхаваўча-адукацыйнай установай. І не проста ўстановай, а сістэмай. Сістэмай, якая ўключае ў сябе і ўласна школу ў класічным разуменні, дзе ва ўстаноўлены час, у пэўнай паслядоўнасці, па спецыяльных праграмах дзеці набываюць канкрэтную суму ведаў і навыкаў, і шматлікія гурткі, секцыі, клубы, якія і прыносяць задавальненне, і развіваюць індывідуальныя інтарэсы, духоўныя запатрабаванні дзяцей.

Такія словы выбраны невыпадкова, бо асноўная ўвага ў нашай школе ўдзяляецца выхаванню здольнасцей, выхаванню асобы. Наша школа — школа для вучняў. Адсюль — дэвіз настаўнікаў "Разбудзі ў сабе творцу, беражліва яго вырошчвай, вучы і выхоўвай дзяцей, абапіраючыся на іх задаткі і здольнасці".




**— Якія мэты ставіць перад сабой педагагічны калектыў Вясейскай сярэдняй школы?**

— Вясейская сярэдняя агульнаадукацыйная школа — гэта сельская школа, дзе менавіта сельскія вучні маюць магчымасць па-сапраўднаму развіваць свае схільнасці.

Школа працуе ў рэжыме станаўлення, які інтэнсіўна пераходзіць у рэжым цэласнага развіцця. Гэтаму спрыяюць праграмна-мэтавае планаванне дзейнасці і якасныя змяненні, якія адбываюцца ў змесце адукацыі, у арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу, ва ўкараненні ў практыку новых, перадавых тэхналогій, у гатоўнасці большасці настаўнікаў да інавацыйнай дзейнасці ў сістэме выхавання, у арганізацыі дадатковай адукацыі і ў кіраванні развіццём школы.

Калі сказаць дэталёва — гэта азначае, што ў школе ўжо склалася пэўная сістэма дыферэнцыяцыі. Яна ўключае ў сябе наступныя элементы:

а) арганізацыю псіхолага-дыягнастычнай службы: у школе працуюць 2 псіхолагі, сацыяльны педагог;

б) знешнюю дыферэнцыяцыю: з 1991 года арганізаваны профільныя класы, іх у школе 3 — фізіка-матэматычны клас, біялогія, хімія, матэматыка, інфарматыка вывучаюцца на павышаным узроўні; класы з паглыбленым вывучэннем геаграфіі (8 клас), нямецкай мовы (з 7 класа), адкрыты падрыхтоўчы клас з мастацкім ухілам, арганізаваны 9 факультатываў і 15 курсаў па выбары;

в) увядзенне новых курсаў і прадметаў: з 1992 года — рытміка і танец — у пачатковай школе, з 5 класа — сусветная культура, ва ўсіх класах уведзены курс "Здаровы лад жыцця";

г) стварэнне адпаведнай мадэлі навучання і навукова-метадычнага яго забеспячэння: у школе распрацаваны: Праграма "Адораныя дзеці", Праграма развіцця школы да 2005 года, у якой закладзена аснова для стварэння на базе школы сельскай гімназіі. Менавіта адсюль — мэта і задачы: "Развіццё здольнасцей і схільнасцей асобы вучня з выкарыстаннем інавацый і асобасна арыентаваных тэхналогій навучання". Наша сельская школа ўдзельнічае ў эксперыменце, які праводзіць Нацыянальны інстытут адукацыі па тэмах: "Адаптыўная школа" і "Дзесяцібальная сістэма ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў".

На працягу навучальнага года ў школе праводзіцца псіхолага-педагагічная дыягностыка па развіцці задаткаў у дзяцей, аналіз якасці ведаў на пачатак, сярэдзіну і канец года. На аснове атрыманых дадзеных складваецца комплексна-мэтавая праграма па дыферэнцыяваным навучанні і ўключаецца ў гадавы план работы. Складваюцца таксама аўтарскія праграмы, якія аналізуюцца творчымі групамі і метадычнымі аб'яднаннямі раённага навукова-метадычнага цэнтра (праграмы па біялогіі, замежнай мове, хіміі, матэматыцы, беларускай мове і літаратуры).

**— Георгій Сцяпанавіч, а што Вы можаце сказаць пра свой педагагічны калектыў?**

— У аснове сістэмы работы педкалектыву школы — глыбокае вывучэнне асобы вучня. Гэта дае магчымасць скласці на кожнага школьніка псіхолага-педагагічную характарыстыку (на кожнага заведзена псіхолага-педагагічная картка), і план яго развіцця і самаразвіцця. На рэалізацыю апошняга і накіравана дзейнасць настаўнікаў-прадметнікаў, выхавальнікаў і класных кіраўнікоў. У нашай Вясейскай сярэдняй школе працуюць 39 педагагічных работнікаў, з іх 17 — выпускнікі школы, 2 — з вышэйшай катэгорыяй, 26 — з першай.

Настаўнікі-прадметнікі стараюцца арганізаваць вучэбны працэс так, каб вучням было цікава, каб яны (вучні) атрымлівалі глыбокія і трывалыя веды, уменні і адначасова авалодвалі навыкамі самаадукацыйнай работы. Урокі настаўнікаў, якія працуюць непасрэдна ў профільных класах — гэта ўрокі пастаяннага развіцця разумовых сіл і здольнасцей дзяцей, урокі фарміравання светапогляду, свядомасці, высокіх маральных якасцей, урокі інтэнсіўнай работы вучняў.

Спалучэнне традыцыйных форм з нетрадыцыйнымі, укараненне ў практыку работы новых педагагічных тэхналогій садзейнічае актывізацыі пазнавальнай дзейнасці школьнікаў.

Адметнай асаблівасцю профільных праграм з'яўляецца іх накіраванасць на такую падрыхтоўку вучняў, якая забяспечвала б ім магчымасць паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы і далейшае паспяховае засваенне профільных прадметаў.

З 18 вучняў профільнага (фізіка-матэматычнага) класа паступілі ў 2001 годзе ў ВНУ 18, якія будуць непасрэдна і ў далейшым вывучаць матэматыку і інфарматыку.

**— Раскажыце, калі ласка, пра гуртковую работу вучняў, пра дзіцячыя аб'яднанні.**

— Інтэлектуальнае, маральнае, эстэтычнае, музычнае, фізічнае развіццё нашых навучэнцаў адбываецца праз іх удзел у 11 гуртках, у занятках клуба "Эрудыт", у спартыўных секцыях ды гуртках; ёсць 2 турыстычныя гурткі. У школе створаны і дзейнічаюць дзіцячыя грамадскія арганізацыі, напрыклад, аб'яднанне малодшых школьнікаў "Нашчадкі" (дзіцячае аб'яднанне "Верасочкі", створанае ў 1992 годзе, перайменавана ў "Нашчадкі" ў 1999 годзе). Піянерская дружына "Вясёлка" налічвае 95 чалавек, а пярвічная арганізацыя БПСМ — 30 чалавек.

Удзел вучняў у грамадскіх арганізацыях і аб'яднаннях садзейнічае выхаванню пэўных маральных якасцей, пачуцця адказнасці за даручаную справу, магчымасць самім вырашыць свае і чужыя праблемы.

**— Якія бліжэйшыя перспектывы развіцця Вашай установы?**

— Сістэма дыферэнцыяванага навучання, якая склалася ў школе, поўнасцю сябе апраўдвае. Аднак гэта не азначае, што няма патрэбы ў далейшым яе ўдасканаленні. Таму бліжэйшыя перспектывы такія: удасканаленне дыферэнцыяванага навучання і выхавання праз шырокае выкарыстанне і ўкараненне ў практыку работы педагагічных тэхналогій, пошук новых шляхоў павышэння эфектыўнасці і якасці навучання і выхавання на аснове даследчыцкай працы кожнага настаўніка.

**— Георгій Сцяпанавіч, хацелася б, каб Вы некалькі слоў сказалі пра работу з педагагічнымі кадрамі.**

— У гэтай рабоце вялікая ўвага надаецца ўдасканаленню педагагічнага майстэрства кожнага настаўніка. Адной з эфектыўных форм павышэння прафесійнага майстэрства з'яўляецца педсавет. Ён адыгрывае вырашальную ролю ў стварэнні творчай атмасферы ў працы па практычнай рэалізацы ідэй школы. Найбольш эфектыўныя формы правядзення педагагічных саветаў: творчыя справаздачы, дзелавыя гульні, вусныя часопісы, канферэнцыі, метадычныя фестывалі. Адміністрацыя школы сумесна з метадычным саветам пры падрыхтоўцы да педсавета праводзіць шэраг мерапрыемстваў, якія больш поўна раскрываюць праблему: тэарэтычныя семінары, прадметныя тыдні, метадычныя дні, "круглыя сталы", псіхолага-педагагічныя семінары. У школе дзейнічаюць метадычныя аб'яднанні, дзе настаўнікі павышаюць свой метадычны ўзровень. Праблемны семінар "Твары і даследуй, вынаходзь і эксперыментуй" дапамагае праводзіць і аналізаваць даследчую дзейнасць у працэсе выкладання свайго прадмета, бачыць перспектыву развіцця вучня, улічваючы яго магчымасці і здольнасці, інтэлектуальны патэнцыял.

Вельмі хочацца бачыць у будучым Вясейскую сярэднюю школу школай-гімназіяй, калектывам, які дасць інтэгральнае, сінтэтычнае, поўнае развіццё вучню і настаўніку. Яно ажыццяўляецца ў працэсе свабоднай творчай працы, а значыць, менавіта гімназія дасць максімум спрыяльных умоў для праяўлення індывідуальнасці і вучням, і настаўнікам, бо, паводле слоў П.П.Блонскіна, "...толькі ў творчасці спее індывідуальнасць".

**Мікола ГРУДЗІНСКІ,**
**Тамара КУРАТНІК,**
**супрацоўнікі Мінскага абласнога ІПК.**

У дапамогу завучу

# Як спланаваць школьны расклад

***У апошнія гады камп'ютэры і камп'ютэрныя інфармацыйныя тэхналогіі актыўна ўваходзяць у наша жыццё. Камп'ютэр сёння — гэта магутны інструмент атрымання і апрацоўкі інфармацыі. Магчымасці камп'ютэрных і сеткавых тэхналогій, іх хуткадзеянне ўражваюць. Таму натуральна, што гэтыя сродкі ўкараняюцца ў сучасны навучальны працэс. Зразумела, што цяжкасцей на гэтым шляху хапае, і асноўная з іх — недастатковае фінансаванне.***

Гэтыя тэхналогіі — дарагія: набыццё камп'ютэраў, іх мадэрнізацыя (развіццё тэхналагічнай базы і ўзроўню бяспекі патрабуюць абнаўлення камп'ютэрнага парка не радзей чым кожныя 2-3 гады), абслугоўванне камп'ютэраў і сетак, пакупка праграмнага забеспячэння, падключэнне да Internet. Акрамя гэтага, неабходна высокая кваліфікацыя выкладчыкаў, іх пастаянная перападрыхтоўка і павышэнне прафесіяналізму.

Як жа могуць прымяняцца камп'ютэрныя тэхналогіі ў сучаснай школе? Гэта — вядзенне і афармленне ўнутрышкольнай дакументацыі; планаванне раскладаў заняткаў; стварэнне і выкарыстанне базы даных аб супрацоўніках і вучнях; маніторынг дзейнасці настаўнікаў; пошук і адбор інфармацыі з дапамогай Internet; выкарыстанне электроннай пошты для сувязі, напрыклад, з органамі кіравання адукацыяй; наладжванне творчых кантактаў з іншымі навучальнымі ўстановамі, у тым ліку і за мяжой; псіхалагічнае тэсціраванне работнікаў і дзяцей; выкарыстанне шматлікіх магчымасцей камп'ютэра і камп'ютэрных тэхналогій у вучэбным працэсе.

Спынюся на адным з пунктаў гэтага пераліку, а менавіта на планаванні раскладаў заняткаў.

Бадай, у дапамогу школьнай адміністрацыі цяжка прапанаваць што-небудзь больш істотнае, чым рэальна дзеючая праграма аўтаматызаванага складання раскладу. Кожны, хто хоць раз у школьнай практыцы сутыкаўся з планаваннем раскладу, цудоўна разумее, наколькі гэта няпростая задача.

Школьны расклад — складаная ўзаемазвязаная сістэма. Практычна кожны аб'ект вучэбнага працэсу звязаны з усімі астатнімі. Калі не напрамую, як у звязцы "клас-выкладчык-аўдыторыя" (выкладчык вядзе свой прадмет у пэўных класах, для правядзення заняткаў патрабуюцца адпаведныя аўдыторыі), то ўскосна.

Планаванне раскладу ўскладняецца надзвычай вялікай колькасцю ўмоў, якія даводзіцца строга выконваць. Калі гаварыць вобразна, кожны добрасумленны завуч укладвае ў расклад душу і сэрца.

Сёння расійскія вытворцы (на жаль, я гэтага не магу сказаць пра беларускіх) прапануюць школам вялікі выбар камп'ютэрных праграм для складання раскладаў з шырокім дыяпазонам цэн ад 50 да 250 у.а. і больш. Трэба сказаць, што гэтыя праграмы маюць дастаткова вялікія магчымасці вырашаць усялякія "але" і многія нюансы ў гэтай працы.

На жаль, сённяшнія ўяўленні адносна ад выкарыстання старых праграм накшталт "Пенала", калі пасля аўтаматычнай расстаноўкі ўрокаў даводзілася яшчэ дні тры гэты расклад карэкціраваць, прымушаюць з вялікай асцярожнасцю вырашаць пытанні набыцця новых праграм.

Каб развеяць падобныя сумненні, хачу далей прывесці кароткія характарыстыкі некалькіх праграм.

Праграма планавання раскладу "Рэктар". Аўтар — Павел Смыкалаў (Санкт-Пецярбург), дэма-версія знаходзіцца па адрасе: http://www.chat.ru/mkls/rectors.exe.

Праграма прызначана для планавання раскладу ўрокаў у звычайных школах і школах з паглыбленым вывучэннем замежных моў. Прадугледжаны ўлік пажаданняў настаўнікаў, планаванне працы ў 2-3 змены, падзел класаў на дзве або тры групы для заняткаў па замежных мовах, фізкультуры і г.д.

Пры рабоце з праграмай магчыма выкарыстанне трох метадаў планавання раскладу. Гэта: ручны падбор раскладу, заснаваны на вопыце і інтуіцыі; аўтаматычны падбор раскладу з прымяненнем эфектыўнага алгарытму пошуку: камбінаваны метад, які спалучае ручны і аўтаматычны падборы.

Ва ўсіх выпадках аўтаматычна выконваецца кантроль, які выключае любыя "накладкі". Магчымы таксама аналіз індывідуальных раскладаў настаўнікаў і загрузкі кабінетаў у ходзе планавання раскладу.

Вынікі працы з праграмай: аптымальны расклад урокаў для класаў; зводны расклад усіх настаўнікаў (ведамасць); індывідуальныя расклады настаўнікаў з улікам іх пажаданняў і аналіз загрузкі кабінетаў.

## "Расклад-2000"

Аўтар — Мікалай Цыгура (Масква), дэма-версія: http://schedule.narod.ru/DownLoads/WebSetupSchedule2000.zip.

Праграмнае забеспячэнне "Расклад-2000" прызначаны для планавання раскладу заняткаў у сярэдніх навучальных установах школьнага тыпу — школах, ліцэях, гімназіях, інтэрнатах і г.д.

"Расклад-2000" дазваляе складаць расклады рознай структуры: як перыядычныя — з перыядам у адзін або некалькі тыдняў, так і аднаразовыя — па зададзеных датах, напрыклад, расклад кансультацый і экзаменаў. Падтрымліваюцца як стандартныя 5-, 6- і 7-дзённыя тыдні, так і любыя нестандартныя варыянты.

Праграмнае забеспячэнне дазваляе ўлічыць патрабаванні, якія прад'яўляюцца да раскладу (індывідульныя магчымасці кожнага настаўніка, вучэбныя групы, вучэбныя дысцыпліны, кабінеты); прадугледжвае гнуткую работу з падгрупамі (колькасць падгруп і тыпаў падгруп розных спосабаў разбіцця патэнцыяльна не абмежавана); падтрымлівае спецыялізацыю вучэбных груп, даючы магчымасць мець некалькі вучэбных планаў.

Ёсць магчымасць фарміраваць заняткі лекцыйнага і змешанага тыпаў, калі ў адной аўдыторыі адзін або некалькі настаўнікаў праводзяць заняткі з некалькімі групамі або падгрупамі.

Праграма мае рэжым аўтаматычнай расстаноўкі ўрокаў, які дае магчымасць хутка атрымаць першапачатковы варыянт раскладу. Ён потым можа быць дапрацаваны ў ручным рэжыме. Гнуткае спалучэнне аўтаматычнай і ручной расстаноўкі ўрокаў дазваляе ў кароткі тэрмін атрымліваць добрыя вынікі ў самых складаных сітуацыях.

На друк выводзяцца індывідуальныя расклады настаўнікаў і вучэбных груп, загрузка кожнага кабінета, зводны расклад настаўнікаў, вучэбны план і размеркаванне нагрузкі настаўнікаў.

Колькасць настаўнікаў, вучэбных груп, кабінетаў, вучэбных дысцыплін і да т.п. абмяжоўваецца толькі магчымасцямі вашага ПК і часам, які вы можаце прысвяціць гэтай справе.

Праграма арганізуе і падтрымлівае архіў, у якім могуць захоўвацца як гатовыя расклады, так і варыянты вырашэння бягучай задачы.

## "Хранограф"

ААТ "Хранабус" (Масква), дэма-версія: http://www.chronobus.ru/demo/demo_2.exe.

Праграмны пакет "Хранограф" уяўляе сабой спалучэнне аўтаматычнага і ручнога алгарытмаў планавання раскладу для навучальнай установы з шырокімі магчымасцямі ўводу, апрацоўкі і вываду інфармацыі на друк.

Праграма цалкам арыентавана на навучальныя ўстановы агульнай сярэдняй адукацыі (школы, ліцэі, гімназіі, УВК і г.д.).

Складанне раскладу пры дапамозе "Хранографа" адбываецца ў наступнай паслядоўнасці: увод агульнай інфармацыі пра школу, карэкціроўка вучэбнага плана, увод агульных звестак аб выкладчыках, размеркаванне іх тыднёвых нагрузак па класах.

Пра кожнага выкладчыка школы ўводзяцца наступныя даныя: прадметы, якія ён вядзе, класнае кіраўніцтва (калі ёсць), сумяшчальніцтва, зменнасць, абавязковыя і пажаданыя вольныя дні і гадзіны, а таксама нумар замацаванага кабінета і яго папярэдняя занятасць. У дадзеным выпадку пад "замацаваннем" кабінета маецца на ўвазе толькі прадметная або асабістая перавага выкладчыка.

Потым адбываецца планаванне раскладу і размеркаванне кабінетаў.

Складанне раскладу ўсіх выкладчыкаў па кожным класе (уключаючы ўсе групы) ажыццяўляецца пры дапамозе як "ручнога", так і аўтаматычнага рэжымаў. Інтэрактыўны алгарытм аўтаматычнага складання раскладу працуе ў пастаянным дыялогу чалавека і камп'ютэра і бярэ на сябе выкананне максімальна магчымай колькасці руціннай працы па расстаноўцы ўрокаў у сетцы гадзін. Ва ўсіх выпадках, калі, "на думку" праграмы, яна не можа прыняць адназначнае рашэнне, аўтамат прапануе чалавеку прыняць рашэнне самастойна.

Ва ўжо гатовым раскладзе робіцца расстаноўка кабінетаў у двух рэжымах: выкладчыкі і ўрокі.

Рэжым "урокі" прымяняецца для прызначэння кабінета канкрэтнаму выкладчыку на канкрэтны ўрок. Рэжым "выкладчык" прымяняецца для прызначэння кабінета канкрэтнаму выкладчыку на ўвесь дзень.

Практыка работы вопытных завучаў паказвае, што працэс складання раскладу займае ад 5 да 7 дзён і прыкладна 1-2 тыдні трацяцца на яго даводку. Пры дапамозе праграмы "Хранограф" гэты час скарачаецца да 1-2 і 3-4 дзён адпаведна. Пры гэтым аптымізуецца загружанасць вучняў і выкладчыкаў, практычна здымаюцца спрэчныя і канфліктныя сітуацыі, вызваляецца час завучаў для вырашэння іншых задач па арганізацыі і кіраванні вучэбным працэсам.

Для работы з гэтымі праграмамі не трэба асаблівага ведання камп'ютэра і суперсучасных машын. Усе яны забяспечаны эфектыўнай сістэмай падказак, для эксплуатацыі дастаткова мець Pentium або нават 486 і 16-32 Mb памяці, для праграмы "Хранограф" абавязковы CD-ROM.

У мінулым годзе ў Віцебску створана ініцыятыўная група "За інфарматызацыю школы". Цяпер мы збіраем інфармацыю аб усіх праграмных прадуктах, распрацаваных на постсавецкай прасторы, якія маглі б якасна змяніць кіраванне вучэбным працэсам на аснове прымянення новых інфармацыйных тэхналогій, і вырашаем з аўтарамі пытанні ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ў сферы рэалізацыі на беларускім рынку.

У прыватнасці гэта датычыць і вышэйназваных праграм складання раскладу ў навучальных установах розных тыпаў.

Калі ў вас, паважаныя чытачы, узніклі пытанні, калі вы не маеце выхаду ў Internet, але хочаце атрымаць дэма-версію праграм і даведацца пра іх цэны, а таксама пра ўмовы набыцця, пішыце на адрас: 210038, Віцебск-38, абанентная скрынка 46, "За інфарматызацыю школы" (калі ласка, пакладзіце ў пісьмо канверт са зваротным адрасам) або на электронныя адрасы: infoschool@tut.by.infoschool@mail.ru.

**Сяргей КУРДЗІН,**
**выкладчык Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.М.Машэрава.**

Перыёдыка

# "Народная асвета"

"Павышэнне якасці адукацыі, ліквідацыя навучальнай перагрузкі вучняў, аптымальнае спалучэнне фундаментальнасці і практычнай накіраванасці навучання, шэраг іншых функцый дзяржаўнага "Адукацыйнага стандарту агульнай сярэдняй адукацыі" патрабуюць сістэмнага падыходу да забеспячэння гэтых функцый як у працэсе арганізацыі навучання і выхавання вучнёўскай моладзі, так і на ўсіх узроўнях кіравання школай", — разважае намеснік начальніка аддзела агульнай сярэдняй адукацыі ўпраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкама А.Д.Гарачава ў сваім артыкуле "Забеспячэнне дзяржаўнага адукацыйнага стандарту", якім адкрываецца ліпеньскі нумар часопіса.

Пад рубрыкай "Філосафы — практыкам" надрукаваны артыкулы навуковага супрацоўніка лабараторыі філасофіі адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі С.М.Астраумавай "Свабода выбару ва ўмовах школьнага навучання", загадчыка кафедры гісторыі філасофіі і культуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктара культаралогіі У.Ф.Мартынава "Мастацтва эпохі асветы", прафесара кафедры філасофіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, доктара палітычных навук Л.Я.Землякова і намесніка дырэктара Дараганаўскай санаторнай школы-інтэрната Асіповіцкага раёна М.С.Сінкевіча "Адукацыя і рэлігія".

Артыкул начальніка аддзела Гродзенскага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі Г.В.Гутоўскай "Новыя навучальныя тэхналогіі — у навучальны працэс" змешчаны пад рубрыкай "Лёс эксперыменту". Рубрыка "Праграмы і падручнікі XXI стагоддзя" прадстаўлена артыкуламі галоўнага эксперта аддзела праблем кіравання рэформай агульнаадукацыйнай сярэдняй школы Нацыянальнага інстытута адукацыі А.В.Канановіча "Аб змесце фізічнай адукацыі ва ўмовах рэфармавання агульнаадукацыйнай школы", галоўнага эксперта названага аддзела гэтага ж інстытута І.Я.Аўгусціновіч "Праблемы ўкаранення "Тэхналогіі" ў школы Беларусі" і настаўніка мінскай сярэдняй школы № 219 В.М.Шынкарова "Фізіка. 8 клас".

Заканчэнне публікацыі псіхолага з Мінска Я.С.Рапацэвіча "Фарміраванне навучальна-пазнавальнай дзейнасці школьнікаў" змешчана пад рубрыкай "Сацыяльна-псіхалагічная служба".

Пад рубрыкай "Метадычная лабараторыя" змешчаны шэраг артыкулаў і метадычных распрацовак педагогаў-практыкаў і вучоных-педагогаў у дапамогу настаўнікам рускай мовы і літаратуры, фізікі, хіміі і іншых школьных дысцыплін. Праблеме рыначных адносін у адукацыі прысвечаны артыкул вядучага навуковага супрацоўніка Нацыянальнага інстытута адукацыі, кандыдата эканамічных навук М.П.Грышчанкі, малодшых навуковых супрацоўнікаў, выкладчыкаў спецыяльных эканамічных дысцыплін сярэдняй школы № 45 Мінска Л.С.Кавальчук і Т.М.Жоглы "Эканамічная падрыхтоўка школьнікаў".

Артыкул кансультанта Цэнтральнага Савета грамадскага аб'яднання "Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя" М.А.Бабіцкай "Самарэалізацыя падлеткаў у пазашкольнай дзейнасці" змешчаны пад рубрыкай "Навуковыя паведамленні, публікацыі".

Завяршаецца нумар часопіса публікацыяй галоўнага бібліёграфа Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі К.Д.Варанько, прысвечанай 145-годдзю з дня нараджэння вядомага англійскага пісьменніка Бернарда Шоу.

**Уладзімір ЯКУБОВІЧ.**

